*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
**ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ**



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 6(340)** **18 ЛЮТАГА 1998 г.**

## Шаноўныя чытачы “Нашага слова”

Ну вось і ў нас з Вамі невялічкі юбілей. Сёняшні нумар - дзесяты нумар пасля аднаўлення выхаду нашай газеты. Увесь гэты час мы трымалі Вас у курсе кожнага кроку. Вы былі сведкамі, як газета пайшла на Гарадзенскую вобласць, потым на Менск, потым на астатнія вобласці, як прайшла падпіска. Мы паказалі вам, колькі ў нас прыхільнікаў у кожным раёне, як купляюць газету.

Мы пачалі друкаваць лісты, якія ідуць у рэдакцыю і ў першую чаргу крытычныя. Вырысаваліся асноўныя рубрыкі і падрубрыкі газеты. Складваецца кола аўтараў.

У нашых планах павялічваць аб'ём газеты. Спачатку да шасці палос і даць тэлепраграму, а потым і да васьмі палос. Але на шэсць палос пакуль няма грошай, а на восем пакуль не хапае творчых сілаў. Тым не менш мы ўжо гаворым пра гэта, бо спадзяёмся, што ўсё гэта будзе.

А пакуль у тым жа аб'ёме мы пачнём даваць тэматычныя старонкі раёнаў і гарадоў, а таксама, дзіцячую старонку.

І асноўнае. Не гледзячы на дрэнную раскупляемасць газеты, не гледзячы на невысокую падпіску, мы пераканаліся за гэтыя месяцы, што ў нашай газеты ёсць чытач. А раз ён ёсць, то і мы павінны быць. І на гэтай ноце ўжо можна спыняць усякія разважанні пра патрэбнасць нашай газеты і наяўнасць сэнсу ў яе выпуску. Бо калі людзі чытаюць “Наша слова”, то і наш святы абавязак забяспечыць яе выхад і якасць той інфармацыі якую яна нясе.

***Станіслаў Суднік.***

## У БНФ свая Беларусь

14 лютага адбыўся чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне”.

Асноўныя пытанні вынесеныя на разгляд Сойму гэта: “Пра святкаванне 80-х угодкаў абвяшчэння БНР і найбліжэйшыя задачы Фронту”, ды “Прагнозная ацэнка палітычных падзеяў у Беларусі на 1998-1999 г.г. і магчымыя дзеянні Фронту”.

Сойм адзначыў выключнае гістарычнае значэнне абвяшчэння незалежнасці БНР у 1918 годзе і прыняў рашэнне пра святкаванне 80-х угодкаў БНР.

Значную цікавасць выклікала ідэя прыёму ў грамадзянства БНР. Юрыдычна Беларуская Народная Рэспубліка існуе. Дзейнічае Рада БНР. Таму пры выкананні ўсіх іншых фармальнасцяў грамадзянства БНР юрыдычна магчымае і праўнае. Наколькі магчыма практычнае рэалізацыя гэтай ідэі пакажа час і сацыяльнае становішча ў краіне. Калі міжнародная ізаляцыя Беларусі будзе ўзмацняцца, то грамадзянства БНР - гэта “акно ў Еўропу”.

Пры масавым атрыманні беларусамі грамадзянства БНР на Зямным шары можа ўзнікнуць унікальная з'ява: краіна з урадам, насельніцтвам, маёмасцю, грашыма, але без тэрыторыі. Гэта пакуль з вобласці віртуальнага, але жыццё найбольшы фокуснік і магчыма ўсё.

## “Але ж не адракацца, не быць здраднікам...”



18 лютага 1893 года ў вёсцы Малая Багацькаўшчына Мсціслаўскага раёна нарадзіўся Максім Гарэцкі, выдатны беларускі грамадскі дзеяч, патрыёт і таленавіты пісьменнік.

“Мы забылі сваю мову, старадаўняя сіла і арыгінальнасць яе і гладкая гучная форма ў доўгія часы нашай “татаршчыны” патроху псавалася,”- пісаў Гарэцкі яшчэ ў 1913 годзе. І такія, як ён не далі мове нашай сапсавацца да канца, але “татаршчына маскоўская” забрала ад нас сярод мільёнаў лепшых і Максіма Гарэцкага.

Ён быў расстраляны НКВД 10 лютага 1939 года.

Мы сёння згадваем Максіма Гарэцкага, каб ушанаваць яго памяць у 105 гадавіну са дня народзін і здзівіцца, што анічога не змяніляся . “Беларусь, Беларусь, - пісаў Гарэцкі ў 1913 годзе, чым ты была і чаго ты, во даждала? І што з табою будзе?” І сам адказваў “ Але ж не адракацца, не быць здраднікам, а любіць, шанаваць родную Бацькаўшчыну павінен...” Павінен.

## Шляхта мовіць па-беларуску

13 лютага 1998 года на паседжанні Найвышэйшай Рады Згуртавання Беларускай Шляхты было вырашана рэкамендаваць сябрам Згуртавання ўступіць у Таварыства Беларускай Мовы альбо аднавіць сваю дзейнасць у суполках Таварыства на месцы працы ці месцах жыхарства.

***Анатоль Грыцкевіч**,*
*вялікі маршалак (старшыня) Згуртавання Беларускай Шляхты*

## Растуць шэрагі ТБМ

12 лютага ў г. Бяроза Берасцейскай вобласці ўтворана суполка Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Старшынёй суполкі абраны **Сяржук Русецкі**.

**Рашэнне Сойму БНФ “Адраджэньне” 14.02.98г.**

## ПРА СВЯТКАВАННЕ 80-х УГОДКАЎ АБВЯШЧЭННЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БНР

25 сакавіка 1918 года была адроджана незалежнасць Беларускай Дзяржавы. 80-годдзе абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі - найвялікшае нацыянальнае свята нашага народа.

У звязку з гэтым Сойм БНФ вырашыў:

1. Усім структарам Беларускага Народнага Фронту з прыцягненнем усіх зацікаўленых асобаў і арганізацый наладзіць шырокае святкаванне 80-х угодкаў абвяшчэння незадежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі..

2.Утварыць Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту “Адраджэньне” па святкаванні 80-х угодкаў абвяшчэння БНР у складзе:

У.Арлоў
А.Асіпцоў
В.Асташынскі
Р.Барадулін- ганаровы сустаршыня
Л.Баршчэўскі -старшыня
М.Баўсюк
А.Бондараў
В.Быкаў- ганаровы сустаршыня
Г.Быкаў
А.Бяляцкі
Т.Ваніна
В.Вячорка
І.Германчук
А.Грыцкевіч
С.Гусак
У.Заблоцкі
В.Здановіч
В.Кабанчук-ганаровы сябра
А.Кавалец
А.Калубовіч
В.Каролік
Р.Кійко
М.Крукоўскі
А.Крыварот
Я.Кулік
М.Купава
В.Лабковіч -ганаровы сябра
Л.Майсеня
С.Мальчык
А.Марачкін
М.Маркевіч
С.Навумчык - ганаровы сустаршыня
І.Нікітчанка
З.Пазьняк - ганаровы сустаршыня
С.Папкоў - намеснік старшыні
С.Паўленка
М.Рагоўскі
І.Саверчанка
П.Севярынец
В.Сіўчык
А.Станішэўскі
У.Старчанка
С.Суднік
І.Сурвіла - ганаровы сустаршыня
В.Свізуноў
А.Фёдараў
Ю.Хадыка - намеснік старшыні
А.Чахольскі
Я.Шатохін
С.Шаціла
Ф.Шкірманкоў
Я.Шунейка
А.Шыдлоўскі - ганаровы сябра

3. Аргкамітэту БНФ супольна з Управаю БНФ да 25.02.1998 зацвердзіць план мерапрыемстваў у звязку з 80-мі ўгодкамі абвяшчэння БНР (адказныя Л.Баршчэўскі,С.Папкоў, В.Сіўчык).

4. Адказнасць за фінансавае забяспечанне выканання плана ўскласці на в.а. старшыні БНФ Л.Баршчэўскага і намесніка старшыні - каардынатара Управы сп. С.Папкова.

## Дзень добры, “Наша слова”!

Перш за ўсё хочацца шчыра падзякаваць Вам за мужнасць у справе падтрымкі нашай роднай мовы, а значыць, і беларускай справы навогул. З нецярпеннем і цікавасцю чакаю кожны Ваш нумар. На жаль не здолеў падпісацца з пачатку года, а толькі з сакавіка.

Сумна і горка было чытаць у апошнім нумары аб статыстычных падліках па рапаўсюджванні “Нашага Слова”, Вельмі спадзяюся, што цяпер , калі газета ідзе на ўсю краіну, гэтыя падлікі не будуць такімі змрочнымі.

Хачу падзяліцца назіраннямі па продажу газеты ў шапіках Менску. Пераважная большасць прадаўцоў размяшчае “Наша слова” на самых далёкіх , нязручных для агляду паліцах, і, нават, мне ( а я ж спецыяльна прыглядаюся) цяжка адшукаць газету не запытаўшыся ў прадаўца. А шмат хто пакуль яшчэ навогул не ведае аб выданні газеты. Хочацца папрасіць кожнага падпісчыка, кожнага чытача:прачытаў —перадай сваю газету суседу, сябру, калегу. Агульна вядома, што большасць беларусаў прыхільна ставіцца да роднай мовы, але, на жаль, прыхільна-пасіўна.

***Станкевіч Раман, іжынер -прекціроўшчык. 9.02.98г.***

## СТАРШЫНІ МАГІЛЁЎСКАГА ГАРВЫКАНКАМА САВІЦКАМУ Д.А.

Звяртаем Вашу ўвагу на тое, што ў г. Магілёве знайходзіцца сем помнікаў У.Леніну, з іх большая частка знайходзіцца ў дрэнным стане і не мае ніякай мастацкай вартасці. Акрамя таго ў Магілёве маецца плошча, бульвар і вуліца названыя ў гонар дадзенага палітычнага дзеяча. Усведамляючы сабе ўсё карыснае, што зрабіла частка рабочых, сялян і ітэлігенцыі-прыхільнікаў поглядаў У.Леніна, лічым мэтазгодным:

1. Правесці экспертызу помнікаў У.Леніну і частку замяніць на выявы хрысціянскіх святых. Гэта будзе прыкладам усеагульнага прымірэння і пакаяння.Паспрыяе стварэнню ў грамадстве стабільнасці і добразычлівасці.

На працягу гісторыі лёс і дзейнасць Леніна былі звязаны з Беларуссю і Магілёвам у прыватнасці. Па непасрэднаму ўказанню Леніна ў 1818 г. быў заключаны Берасцейскі мір, згодна якому большая частка Беларусі, у тым ліку правабярэжная частка Магілёва засталіся пад нямецкай акупацыяй. Па яго загаду ў 1919 г. частка беларускіх зямель: Смаленская, Віцебская і Магілёўская губерні былі перададзены РСФСР. Савецкі ўрад пад кіраўніцтвам Леніна ў 1921 г. заключыў Рыжскую дамову з Польшчай, у выніку заходняя частка Беларусі засталася пад польскай акупацыяй.

2. Улічваючы ўсё вышэйзгаданае лічым, што нявартa і немагчыма, каб у нашым горадзе галоўная плошча мела назву У.Леніна. Прапаноўваем перайменаваць плошчу Леніна ў плошчу імя Язэпа (Іосіфа) ЛЕВАНОВІЧА - народнага героя XVII стагоддзя, кіраўніка Магілёўскага паўстання гараджан 1661 года. На той час славянскае насельніцтва Магілёва складала каля 80 працэнтаў і ў большасці было праваслаўным.

У гісторыі Магілёўшчыны не шмат знойдзецца прыкладаў пасьпяховых паустанняў супраць захопнікаў. Таму паўстанне 1661 г. увайшло ў Гісторыю, як прыклад гарадскога патрыятызму, адчування сваёй годнасці і непарыўнай сувязі з дзяржаваю.

Ушанаванне памяці Я.Левановіча будзе крокам да патрыятычнага выхавання моладзі і прыкладам мужнасці і гераізму славян.

*Магілёўская абласная філія Таварыства беларускай мовы імя Францішка.Скарыны.*
*Магілёўская абласная арганізацыя Беларускага народнага фронту “Адраджэньне”.*

## Весткі з сядзібы ТБМ

Адбылолся сумеснае паседжанне сакратарыята і менскай гарадской Рады ТБМ. Разглядаліся пытанні падрыхтоўкі да Рэспубліканскай Рады, перарэгістрацыі Таварыства, падтрымкі беларускамоўных класаў, актывізацыі падпіскі на газету “Наша слова”, арганізацыі чарговых паэтычных сустрэч.

Працягваецца работа па лініі падтрымкі беларускіх класаў. Сябры сакратарыяту ТБМ, дзіцячага фонду “Сакавік”, паэт Яўген Хвалей сустрэліся з вучнямі 4 класа СШ №44 імя Я.Коласа г. Менска. Аматары Беларушчыны правялі з дзецьмі конкурсы , гульні. Пераможцы атрымалі падарункі.

Сябры сакратарыята ТБМ прынялі ўдзел у абмеркаванні пытання аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь на сходзе дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13 склікання. Дэпутаты атрымалі інфармацыю аб праблемах беларускамоўнай адукацыі: скарачэнні беларускіх класаў і школ, адсутнасці ў краіне беларускай ВНУ, падзенні прэстыжнасці беларускамоўнага навучання, адсутнасць педагагічных кадраў і інш.

У музеі Я. Купалы адбыліся чарговыя паэтычныя сустрэчы. Аматары паэзіі вялі дыялог з паэтам Алегам Лойкам, знаёміліся з творчасцю барда Алеся Камоцкага. Напрыканцы вечарыны прысутныя наведалі выставу мастака Сяргея Давідовіча, сустрэліся з аўтарам палотнаў.

Старшыня клуба “Спадчына” Анатоль Белы падараваў 150 асобнікаў кнігі-альбома “Любіць Радзіму - шанаваць родную мову” Рэспубліканскай і менскай гарадской Радам ТБМ. Падарунак будзе выкарыстаны для падтрымкі беларускіх класаў, у якасці ўзнагароды пераможцаў конкурсаў і віктарын.

Беларуская Каталіцкая Грамада выдала кніжку Міры Лобэ “Маленькая я - гэта я”, што з'явілася падарункам дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту ад чытачоў нямецкай газеты “Зальцбургскія навіны”. Пераклад на беларускую мову выканаў Эдуард Акулін. Рэдактар выдання - Алесь Бяляцкі.

Сакратарыят выказвае шчырую падзяку БКТ і аўтарам выдання за перададзеныя Таварыству беларускай мовы кнігі.

## Мужным людзям Беларусі.

Мне гаворашь, што мовы няма,
Мне даводзяць што
"это наречье",
Што на ёй гаварыць — задарма,
І смяюцца, плююць і нявечаць

Мне гавораць— краіны няма,
Не было, пагулялі і годзе,
Бо гісторыя ж ваша сама
Пачалася ў сямнаццатым годзе

Мне гавораць— народа няма,
Ёсць няздольныя, цёмныя людзі.
Спіны гнуць ад цямна да цямна
І нішто іх ужо не абудзіць...

Так гавораць, але ж праз вякі,
Праз эпохі, часы і стагоддзі
Ні Кайдан і ні бальшавікі,
І ні які другі, іншы злодзей

Нашу мову адолець не змог,
Не зламаў яе, як ні стараўся,
Не дапусціць зламаць яе Бог,
Як бы хто там
не рваўся, не пяўся...

Мову ж нашу ад бацькі і маці
Не прыдумаў Гілевіч ці Быкаў,
Дык нашто ж столькі
марна старацца,
Дык нашто ж столькі
плётак і слыхаў?!

Як і Сцяг, і Пагоню святую
Не прыдумаў Пазняк ці Шушкевіч,
Бог зямлю, і народ наш ратуе
Бог змагацца нас вучыць
і верыць,

Бо людзей,
што шануюць Радзіму,
Не адменіш ніякім указам,
І яны зноў Пагоню падымуць,
І падымуць штандары ўсе разам,

І раскажуць і дзецям , і ўнукам,
Як змагаліся і баранілі,
Спасцілалі свабоды навуку,
І як іх шальмавалі і білі,

Як хапалі і ўночы, і ўранку,
Як сцягі чорным ботам тапталі,
Як уладай махалі, бы палкай,
Ну, а палкай уладна махалі.

Як шукалі, стваралі злачынцаў,
Бо другога рабіць і не ўмелі,
Як прымалі палацы ў гасцінцы,
Ну а людзі і хлеба не мелі.

Як хавалі свой страх
за падманам,
Як ілгалі, таропячы вочы,
Як мазгі засцілалі туманам,
Каб жылі мы і ў цемры, і ў ночы.

Як чужынцы былі пры пашане,
Ды і той, хто лісліва смяецца,
Той, хто больш “прыгажэйшы”
ў падмане,
Хто ніжэй у паклоне сагнецца.

А таму, хто галеў тут спрадвеку,
Не шукаў лепшай долі ў чужыне,
Адмаўляюць,
каб быць чалавекам,
Нават мовы не хочуць пакінуць.

Дык гукні, грукатні, Беларус!
Устань з калень, ухапіся за свет!
Атрасі, нібы той землятрус,
Ад пачварных жаданняў і мэт!

І не збочыць твой конік убок
Ад сапраўдных дарог-пуцявін,
І твой шлях не заблытае змрок,
Бо ў дарозе ты ўжо не адзін!

***Раман Станкевіч, г. Менск***

# Жыць ці не жыць

Пытанне аб выжыванні беларускай нацыі з тэарэтычных разважанняў перайшло ў жорсткую рэальнасць. Дзесяць апошніх гадоў гісторыі, пачынаючы са спробы перабудовы савецкага грамадства і да сёняшняга дня, яскрава прадэманстравалі, што чакаць рэальнай падтрымкі ў справах захавання беларускай нацыі ні з Усходу, ні з Захаду, ні з Поўдня, ні з Поўначы няма чаго: кожны народ — за сябе, адзін Бог — за ўсіх. Нават, калі ў іншых краінах і ёсць групоўкі, якія шчыра спачуваюць беларусам і гатовы аказаць дапамогу, то яны, глядзячы на рэаліі жыцця Беларусі, як краіны, не могуць уцяміць, каму дапамагаць, хто на Беларусі беларусы і чаго яны самі хочуць.

Трэба глядзець праўдзе ў вочы, а не жыць толькі марамі пра лепшыя часы. У наш час сапраўдныя беларусы на Беларусі - гэта нацыянальная меншасць сярод мора пашпартных беларусаў-маргіналаў, проста саўкоў і актыўных іншаэтнічных груп насельніцтва. Дзяржаўныя інстытуты пад кіраўніцтвам маргіналаў, калабарантаў і прыхаваных ворагаў Беларушчыны разбураюць усё беларускае. Адкрытыя ворагі Беларушчыны ўсіх адценняў знаходзяць на нашай зямлі, калі не падтрымку, то магчымасць вольна дзейнічаць і яшчэ карміцца за кошт беларусаў. Спадзявацца на тое, што "народ" прачнецца і апамятаецца - нерэальна: народ такі, якім яго выхавалі папярэднія ўлады. Ён можа запатрабаваць каўбасы і гарэлкі, але песні і культура на беларускай мове, незалежнае жыццё, якіх ён амаль не ведае, для яго мала патрэбныя рэчы. Тыя са сталых людзей, што жадалі далучыцца да Беларушчыны і жыць беларускім жыццём, за мінулыя дзесяць гадоў свой выбар зрабілі. З моладзі, хто сапраўды хоча далучыцца і здольны на гэта, той знаходзіць да беларускасці свой шлях.

Самае прыкрае ў беларускай рэальнасці тое, што ў мешаніне сацыяльнага матэрыялу нават шчырыя беларусы зацёрты маргіналамі і вымушаны жыць агульным з імі жыццём, хаця паасобку кожны здольны стварыць сваё асяроддзе, але па за ім не існуе нацыянальнай прасторы, якая б спрыяла рэалізацыі нацыянальных памкненняў.

Гісторыя ведае шмат прыкладаў, калі народы, жывучы пад уладаю чужынцаў ці ў асяроддзі іншага этнасу, захоўвалі сваё нацыянальнае аблічча, аднаўлялі сваю дзяржаўнасць. Галоўнае , што ім дапамагала - еднасць на грунце ўсведамлення свайго дачынення да свайго народу, яго культуры, яго мэтаў, утварэнне сваёй этнічнай культурнай прасторы, якая дазваляла рэалізоўваць пэўную частку нацыянальных праблем, а галоўнае стварала ўмовы для дзейнасці на перспектыву. І гэтую еднасць утваралі не пашпартныя інваліды, а свядомыя асобы, якія жадалі жыць жыццём свайго этнасу, а астатнія ці далучаліся, ці прыжываліся.

Гэты працэс нялёгкі, не аднаназначны, працяглы па часе, але ён адзіная альтэрнатыва, калі няма спадзяванняў на хуткую нацыянальную актывізацыю. Менавіта нацыянальную, а не сацыяльную. Лепшы прыклад таго, што можа атрымацца ў выніку чыста сацыяльнай актывізацыі масаў з'яўляецца Беларусь з яе выбарам на пасаду прэзідэнта Беларусі беларускага сялянскага хлопца...

Сапраўдных беларусаў, якія жадаюць жыць сваім беларускім жыццём на Беларусі хапае, хаця яны не складаюць большасці насельніцтва. Але ж зараз галоўнае не гэта. Страшна тое, што шчырыя беларусы раз'яднаныя - гэта па першае, а па другое - яны яшчэ трацяць значныя сілы на вырашэнне агульнадэмакратычных пытанняў, спадзяючыся пры гэтым на аўтаматычнае вырашэнне нацыянальных. Ад гэтага ў значнай ступені выйграюць усе, а ці шмат выйгралі самі беларусы? Ці знайшлі яны рэальнай падтрымкі ў іншых народаў на Беларусі і па-за яе межамі?

Толькі яднанне беларусаў, апора на свае сілы і вырашэнне свайго нацыянальнага пытання на дэмакратычных прынцыпах дасць ім рэальныя вынікі, адначасова гэта будзе дапамагаць і вырашэнню агульнадэмакратычных задач. Там, дзе нацыянальныя пытанні не вырашаны ў першую чаргу з асноўнай нацыяй, там ніколі не будзе вырашэння пытанняў з іншымі нацыянальнымі групамі. Упэўніцца ў гэтым на сваім рэальным стане могуць усе народы, якія жывуць зараз на Беларусі.

Нам не трэба баяцца расколу нацыі. Гэты раскол існуе ўжо некалькі стагоддзяў. Ён праходзіць па жыцці і душах насельніцтва Беларусі. Нас *раскалолі на праваслаўных*, католікаў, пратэстантаў і вуніятаў; на нацыяналістаў і інтэрнацыяналістаў; на "товарищей" і спадароў; на "младших братьев" і ворагаў славянскага адзінства. Горш не будзе. Пасля ўсяго, што ўжо адбылася, наступны крок ворагаў Беларушчыны-расцярушванне рэшткаў этнасу. І гэты працэс таксама ўжо ідзе... Але жыць ці не жыць беларусам - вырашаць нам.

Настаў час пазбавіцца палітычных ілюзіяў і спадзяванкаў на лепшае. У палітыцы дзейнічаюць мэтазгоднасць і воля. Бог за ўсіх, але дапамагае тым, хто гатовы пазмагацца за сябе сам. Галоўнае: настаў час беларусам пазбавіцца дробных крыўдаў адзін на аднаго, хваравітай амбіцыйнасці, талерантнасці, назва якой-безхрыбетнасць. Быць разам, ісці сваім шляхам, жыць сваім жыццём, трымацца толькі сваіх нацыянальных інтарэсаў-гэта прынцыпы існавання любой нацыі. Тых, хто гэта разумее і гатовы да такога жыцця, мы запрашаем да еднасці.

Вынік нашай агульнай працы — захаванне і перадача ў спадчыну нашым дзецям Беларусі.

***А.Шамак.***

# Аснова гісторыяграфіі




Гісторыю не пераробіш і не пераменіш. Але яе можна пераглгаць, замаўчаць, перайначыць. На сёння на гістарычнай ніве больш казачнікаў, гусляроў, баянаў, якія гісторыю апавядаюць ды пераказваюць, чым сапраўды вывучаюць.

Таму выданне напрыканцы 1997 года ў серыі "Беларускі кнігазбор" кнігі " Беларускія летапісы і хронікі"— справа вялікай важнасці. Прынамсі сталі даступнымі многія старажытныя крыніцы інфармацыі і сёняшнія казачнікі гісторыі могуць будаваць свае аповеды на сапраўды гістарычным грунце. І то, дзякуй Богу.

Уладзімір Арлоў уклаў у гэтую кнігу "Паданні пра Полацкіх князёў", "Старонкі Полацкага летапісу", " Аповесць пра князёў Міндоўга, Войшалка і Тройдзеня", " Летапіс Вялікіх князёў Літоўскіх" , " Хроніку Быхаўца", " Старонкі рыцарскага эпасу" , "Баркулабаўскую хроніку", "Віцебскі летапіс", " Магілёўскую хроніку Трафіма Сурты і Юрыя Трубніцкага".

Многія з гэтых летапісаў і хронік упершыню падаюцца на беларускай мове.

Гэтая кніга распачынае серыю "Гісторыка-літаратурныя помнікі" Таму трэба чакаць выхаду новых тамоў кнігазбору.

# Па пальцах лічым беларусаў

Знакаміты наш паэт Максім Танк на пытанне анкеты, як ён глядзіць на беларускую мову, адказаў: "Я не спецыяліст, не вучоны. Мову сваю вывучаў за плугам і касой, у бацькоўскай хаце, на кірмашах, на фэстах, на вяселлях і хрэсьбінах... І таму магу толькі сказаць як пісьменнік, што яе люблю. І , хоць у роспачы за яе сённяшні стан, веру ў яе будучыню". ("Полымя" №7 за 1997г.) Гэта было напісана ў 1979 г., калі на Беларусі паспяхова ішла русіфікацыя і ў гарадах амаль не засталося беларускіх школ. Дарэчы, і ў Ашмянах тады да першай расейскамоўнай школы далучылася і сярэдняя школа №2, дагэтуль беларуская.

У прачатку 90-х гадоў з'явілася магчымасць адрадзіць нашу мову, пашырыць яе ўжыванне. Школы хутка сталі на шлях беларусізацыі, нават Ашмянская СШ№1, традыцыйна расейская. У многіх службовых кабінетах пачалі размаўляць па-беларуску, вясці справаводства, як у нашым гарсавеце і адзеле адукацыі, ствараліся гурткі па яе вывучэнні, а хтосьці з аб'яднання "Гроднаэнерга" праводзіў сялектарныя пераклічкі на нашай мове, бо яна ж стала адзінай дзяржаўнай. Але праз тры гады гэты працэс быў спынены. На двух рэферэндумах народ ухваліў такія прапановы прэзідэнта, што абмежавалі беларускую мову і вярнулі да ўзроўню часоў, пра якія пісаў М.Танк. Школы і класы масава пераводзяцца на рускую мову навучання. Службоўцы ва ўстановах і арганізацыях гавораць выключна па-расейску, бо яна цяпер мае роўны статус з беларускай. Наша мова чуваць толькі ў вёсках і ў людзей фізічнай працы, якія мацней засвоілі яе ад бацькоў.

Праўда, ёсць і сярод інтэлігенцыі асобы, якія не адмаўляюцца ад нашай мовы. Так, маладыя урачы ЦРБ Святлана Кузьміцкая і Таццяна Балвановіч гавораць на ёй з хворымі. Доктар Валеры Іванавіч Глускі ў школе прымаў удзел у алімпіядах па беларускай мове, дык і цяпер пры выпадку карыстаецца ёю нароўні з расейскай, бо не хоча ламаць свой язык. Дакладна такую ж думку выказаў прараб электрамантажных работ Кукіш Іван Вікенцевіч, калі ў санаторыі падмецілі ў яго гаворцы моцны ўплыў беларускай мовы.

Загадчыца Анжадаўскага ФАПа Датчук Ганна Іванаўна карыстаецца нашай мовай усюды: дома, на рабоце. У Крыванцаўскім с/савеце чатыры работнікі і , па словах бухгалтара Яжэвіч Ядвігі, гавораць яны па-беларуску. Работніца дзіцячай бібліятэкі Купко Людміла з задавальненнем карыстаецца родным словам. Але такіх людзей мала. На жаль, наша мова выходзіць з афіцыйнага ўжытку, і вышэйшая наша ўлада пакуль што не зацікаўлена ў яе захаванні. Толькі нельга забываць, што яна мае статус дзяржаўнай мовы і павінна мець абарону.

***Міхаіл Пузіноўскі***, настаўнік-пенсіянер. г. Ашмяны.



**Павел Сцяцко**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

### Надыходнае свята, узыходнае сонца, а не надыходзячае і ўзыходзячае...

Калі мы кажам пра надыход свята, то гэтае свята і ёсць надыходнае. Прыметнік тут утвараецца ад назоўніка ці ад дзеяслова з выкарыстаннем прадукцыйнага спрадвечна беларускага суфікса -н-: надыход-ны. Як і пераходны; адпаведны (ад адпавядаць). Напрыклад: "*Нас і парадавала, і разам з тым трошкі засмуціла гэтае нечаканае **надыходнае** свята. **Узыходнае** сонца абдымае сваімі шчодрымі промнямі, вітае салідарнасць працоўных "(Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. МН., 1994. С.93).*

Формы з суфіксам - яч - (надыходячае, узыходзячае) - гэта калькаваная, чужая мадэль, навязаная нашай мове паста-новай СНК БССР 1933 года, якая скіроўвала развіццё бела-рускай мовы на шлях зліцця з расейскаю.

У 20-я адраджэнскія гады нашая мова не карысталася гэтвмі штучнымі калькамі. Так, у "Беларуска-расейскім слоўніку" М. Байкова і С. Некрашэвіча (Менск, 1926.С.329) чытаем: "***Усходны** - восходяший*". Дый сучасныя слоўнікі нярэдка падаюць натуральныя прыметнікі з суфіксамі -н-, -ов- (-ав-, -ёв-, -ев-) на месцы расейскамоўных на -яшчий, -юшчий: прыдатны - подходзяший, абслуговы - обслуживаюший, гукаправодны — звукопроводяший і пад.

Параўн. У Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (Мн.: Полымя, 1994): " *У выпалку незанятасці асобыі па не залежных ад яе прычынах ёй гарантуецца навучанне новым спецыяльнасцям і павышэнне кваліфікацыі з улікам грамадскіх патрэбнасцей, а таксама дапамога па беспрацоўі ў адпаведнасці з законам" (С.9). Іншыя нарматыў-ныя акты..., міжнародныя дагаварныя або іншыя абавязацельствы, прызнаныя Канстытуцыйным Судом неадпаведнымі Канстытуцыі... )С.24). " Прапазіцыйная формула называецца супярэч-насцю, калі адпаведная ёй булева функцыя набывае значэнне 0 пры ўсіх наборах логікавых значэнняў уваходных у яе літараў" (Т.Капылова. Матэматычная логіка. Гродна, 1977. С.16).* Як бачым, тут няма гэтых "*не залежачых*", "*не адпавядаючых*", "*уваходзячых*", а выкарыстоўваюцца натуральныя беларускія ўтварэнні.

Па - беларуску ***пераважная большасць*** (а не *пераважаюча*) , ***прылеглая тэрыторыя*** (а не *прылягаючая*), ***адпаведныя захады*** ( а не *адпавядаючыя*) і г.д.

І свята - ***надыходнае***, сонца - ***узыходнае***.

### Асілак, волат - а не багатыр.

Слова ***багатыр*** у беларускай мове выразна стасуецца з прыметнікам ***багаты***, ад якога і ўтварылася: ***багат ыр***. У народнай мове аналагічнай будовы словы *пустыр* (*пустка* ад *пусты*), *жаўтыр* (*птушка жаўтушка* , *амялушка* ад *жоўты*) (Гл.:П.У.Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. Мн.,1977.С.127). У расейскай мове богатырь - татарскае пазычанне, якое В. Ластоўскі вызначае як "баечны сілач" і перакладае на беларускую мову словамі волат, харобр, палянец, магут (РК(б)С. С.35).

У "Беларуска-расейскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Менск, 1926) таксама бачым: "**Багатыр** *м* - богач, **багатырка** *ж*. - богачка (С.40)". А расейскаму *богатырь* тут адпавядае беларускае ***асілак*** (С.35). І ўсе перакладныя слоўнікі падаюць беларускае слова ***багатыр*** толькі як адпаведнік рас. *богач, богатей*. Так, у " Беларуска-расейскім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т.І.Мн., 1988. С.166) чытаем: "**Багатыр**, *м*. (тот , кто обладает богатством), богач, богатей, толстосум". Словаўтваральнымі сінонімамі яго выступаюцьь аднакаранёвыя назоўнікі з суфіксамі - ач і -ей: багач, багацей.

А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы " ( Т.І.Мн., 1977. С.322) ужо "аб'яднаў" мовы, падаўшы словы багатыр і з тым значэннем, што і ў расейскай мове, прычым ілюстрацыяй тут выступае назва карціны расейскага мастака В. Васняцова "Богатари". Тут ужо багачам і багатырскі эпас. Ну , як тут не нагадаць словы Максіма Лужаніна пра тлумачальны слоўнік... "Вушы вянуць".

А вось "Русско-белорусский словарь "1993 года справядліва вызначае наступную лексічную норму: "Богатырь - волат, асілак; богатырский - гераічны, богатырский эпос - гераічны эпас; волатоўскі; спать богатыр-ским сном - спаць моцным сном; багатырство *ср*. - гераічнасць *ж*. (Т.І.С.112)

### Жывая энцыклапедыя, а не хадзячая.

Нашыя лексікографы замест таго, каб вывучаць жывую народную мову і замацоўваць у даведніках беларускія лексемы, пайшлі найбольш лёгкім шляхам: калькаваннем ці натуральным пазычаннем чужых словаў, пераносячы іх з расейскай часткі слоўніка на беларускую. Так, пра адукаванага чалавека, які валодае самымі разнастайнымі ведамі, беларус кажа: "**Жывая энцыклапедыя**". А вось у слоўніках бачым: "ходячая энциклопедия — хадзячая энцыклапедыя", хоць утварэнні з суфіксам -яч- беларускай мове неўласці-выя.

### Траціна, чацвярціна - ці толькі трэць, чвэрць.

У сучасным перыядычным друку рэдка сустрэнеш адлічэбнікавыя назоўнікі з фармантам - іна: траціна, чацвярціна, а толькі трэць, чвэрць. А між тым словы на - іна вельмі выразныя сваёю будоваю і зместам. Раней такіх намінацыяў было шмат у мове, яны абазначалі адпаведную частку зямель-нага надзелу (валокі):, **траціна, чацвярціна, шасціна, васьміна, дзесяціна**. У жывой народнай мове і цяпер звычайна пачуеш гэтыя словы "траціна, чацвярціна", а не трэць ці чвэрць: "Ужо траціну соток згараў. Чацвярціну картоплямі засадзіў". У Зэльвенскіх гаворках гэтыя "трэць" і "чвэрць" усведамляюцца як пазычанні з расейскай (трэць) і польскай (чвэрць) моваў.

Лексему траціна як стылёва нейтральнае слова, сінонім да трэць, фіксуюць і нашыя слоўнікі. Напрыклад, у "Русско-белорусском словаре" 1993 года чытаем: "Треть - трэць, траціна" (Т.3.С.546). У "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (Т.5.Кн. 1.Мн.,1983.С.517) слова засведчана з двумя значэннямі: "Траціна, -ы,ж.1. Старая мера плошчы - трэцяя частка зямельнага надзелу ( звычай-на валокі). 2. Адна з трох роўных частак чаго-небудзь. Траціна ўраджаю". Дарэчы нагадаць тут, што суфікс - ін-а мае і слова, якое абазначае адну з дзвюх роўных частак чаго-небудзь, — палавіна (ад палова).

Але ж пад уздзеяннем расейскамоўнай маўленчай практыкі (якая не ведае слова траціна) нашая адмысловая лексема стала выцясняцца з маўлення. Выкараненню бела-рускага слова траціна спрыялі і акадэмічныя слоўнікі. Так, "Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года пад рэдакцыяй К.Крапівы падае сллова траціна толькі як застарэлае — треть (земельного надела) (С.924). Тое самае бачым і ў двухтомавым яго перавыданні, У другім чытаем: "Траціна ж.уст.(обычно земель-ного надела) треть (БРС-89. С.562). І гэта асабліва кідаецца ў вочы пры параўнанні з "Русско-белорусским словарём" 1953 года і яго пазнейшымі перавыданнямі, дзе слова траціна не мае стылістычнага абмежавання і выступае як сінонім да трэць.

### Водгук — а не водзыў.

Нашыя перакладныя расейска-беларускія слоўнікі рас. *отзыв* са значэннем "ацэнка" падавалі без перакладу, а толькі напісанае па-беларуску: "Отзыв 1.(отклик) водгалас, водгук; 2. (оценка) водззыў; 3. воен. вод-зыў" (РБС-82. Т.1. С.624; РБС-93. Т.2. С.388). Між тым беларускае слова ***водгук*** шматзначнае. У Тлумачальным слоўніку засвед-чаны 4 яго значэнні: 1. Водгулле, рэха; слабы гук, які даносіцца здалёк; 2. перан. Спачувальныя адносіны, салідарнасць з чым-н; 3. перан. Тое, што з'яўляецa вынікам чаго-н., адказам на якія-н. падзеі, з'явы. 4. Разм. Тое, што і водзыў (у 1 знач.) (ТСБМ. Т.1. Мн., 1977 С.499-500). Памета "размоўнае" засцерагала скла-дальнікаў ад ідэалагічных цэнза-раў. А двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Т.1.Мн.,1988. С.237) справядліва здымае гэтае абмежаванне і фіксуе лексему ***водгук*** і са значэннем (высказанное мнение, оценка чего-л., рецензия) рас. *отзыв, отклик*.

Такім чынам, слова водгук мае ўсе падставы для выкарыстання яго са значэннем "ацэнка, рэцэнзія". Гэта засведчыла і сучасная моўная практы-ка. Напрыклад, ў кнізе знакамі-тага даследчыка, вучонага і пісьменніка Арсеня Ліса чытаем: "Выстаўка цягнулася паўмесяца, і ўжо ў канцы першага тыдня з'явіліся ў друку прыхільныя водгукі" (Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994 С.130).

*(Працяг у наст. нумарах)*





# БЕЛАРУСКІ СУСВЕТ

## А што рабіць? Трэба змагацца!

У студзені 1997 года быў у Менску. У першы ж дзень, ледзь не трапіў у пастарунак, хоць здаецца, з майго погляду, нічога не парушаў. Проста ішоў па вуліцы. Праўда размаўляў на беларускай мове, ды меў на кашулі значок з бела-чырвона-белым сцягам. Аднак падобныя значкі я нашу паўсюль і заўжды ўжо з 1991 года, а на беларускай мове размаўляю заўсёды, як прыязджаю на Беларусь. Зарок даў: на Бацькаўшчыне размову весці хоць з кім, толькі на роднай мове. Лічу , што маю права! Абрыдла мне гэта іншаземная — расейская! Хоць у Родным краі даць сабе палёгку.

Аднак таго, што я прыехаў з Іркуцка, ды праявіўшы настальгію, усцешваўся гучаннем беларускай мовы, не ведаў той міліцыянт, што меціўся затрымаць мяне. Навогул, калі я да яго падыходзіў, я нават не меркаваў, што прыйдуся яму не даспадобы. Ён стаяў з нейкімі хлопцамі ў цывільным. Размаўляючы на беларускай мове са сваім спадарожнікам і наблізіўшыся да яго на пяць крокаў, я пачуў: "Совсем абнаглелі, ходзяць тут са сваімі значкамі!" Што гэта датычыцца мяне, я спачатку і не ўцяміў. Аднак параўняўшыся са мной, той схапіў мяне за рукаў, брудна вылаяўся і сказаў: " Ты... што не понял?!" Тут я ўсё зразумеў. Аднак спрачацца, тым больш размаўляць з ім зусім не хацелася. Добра што падаспеў тралейбус і я, вырваўшы сваю руку, заскочыў у яго. Мой спадарожнік, бацька сябра, якому я прывёз з Іркуцка прывітанне, нічога не зразумеў. " Што ты зрабіў?" — запытаўся той. "Нічога... мабыць палічылі за БНФаўца" — адказаў я. Пасля гэтага значок давялося зняць, бо я быў дэлегатам Іркуцкага Таварыства Беларускай культуры імя Яна Чэрскага і павінен быў зрабіць у Менску шмат спраў і правесці перамоў. А сутычкі з міліцыяй, ды далейшыя " разборкі" у пастарунку, зусім мяне не ўцешвалі. Але на беларускай мове я ўсё - ж такі і размаўляў. Праўда, калі пыталіся, казаў, што я з вёскі прыехаў. Тым больш, што гэта часткова і праўда, бо нарадзіўся я ў невялікай вёсцы на Полаччыне.

Праз колькі дзён сустрэўся я з вядомай паэтэсай . Ад яе упершыню пачуў дзіўнае слова : "Акупацыя". Казала яна гэта з безнадзейнай роспаччу. Я спрабаваў яе падбадзёрыць, даводзіў што сумленных беларусаў шмат, асабліва ў Менску. А яна сваё: "Акупацыя. Праз некалькі год улады знішчаць апошнія парасткі Беларушчыны". Мне не хацелася у гэта верыць. Але ...

Я з'ехаў у Іркуцк. І што ж я чую! Інтэграцыя. Беларусь у склад Расеі. Лукашэнка ўрачыста сустракае "дэлегатаў народаў СССР", а працей камуністаў-зюганаўцаў. У той жа час яўна не жадае правядзення II з'езду беларусаў Свету і пагражае: не дай божа будзе крытыка ў мой адрас. Васіль Быкаў аб'яўлены ледзь не "ворагам народа". У апошняга беларускамоўнага ліцэя адбіраюць будынак. Людзей на мітынгах збіваюць, саджаюць у пастарункі . У той жа час пукаюць "качку": "Што мітынгоўцам ЦРУ па 5 доляраў у гадзіну выдае" і г.д.

Цяпер і я ўпэўнены. У Беларусі — акупацыя!

Вораг захапіў нашу краіну! Нашу любую Бацькаў-шчыну! Ён здзекуецца з сумленных беларусаў, здзекуеца з беларускай мовы і праводзіць пэўную лінію на знішчэнне і мовы , і беларусаў уцалкам. Мы губляем Беларусь з кожным днём, з кожнай гадзінай.

*Дык што ж рабіць ???*

Я гісторык. Прычым, належу да тых гісторыкаў, якія кажуць, што гісторыя паўтараецца, што яна развіваецца па спіралі. Гэта спрэчна? Магчыма. Аднак сёняшняя сітуацыя на Беларусі (ва ўсякім разе падобная) ўжо была і не аднойчы. "Вораг таптаў нашу зямельку і нішчыў беларускую нацыю, забараняючы і мову, і праўдзівую гісторыю. Аднак кожны раз пасля націску ворага, Беларусы паддымаліся. Нас не маглі зламць ні ссылкі, ні страты. Якая б цёмная гадзіна не была, знайходзіліся людзі, якія падымалі народ супраць ворага. Але з чаго яны пачыналі? Пераконвалі адзін аднаго у патрэбнасці барацьбы? Не! Яны будзілі сялян!, Мястэчкоўцаў!, Тлумачылі "цёмнаму" люду, што да чаго! А як яны гэта рабілі? Пісалі навуковыя артыкулы? Не! Яны пісалі байкі, камедыі, вершы, апавяданні, розныя "гутаркі" у форме дыялогаў, прычым рабілі гэта на "мужыцкай мове", на той мове, якую разумее, якую жадае чуць просты люд. А як падпісвалі гэтыя "творы"? Знакамітымі прозвішчамі дактароў навук? Не! Сяляне не захочуць чытаць словы не свайго чалавека. Кастусь Каліноўскі не пісаў пра сваю адукацыю, а падпісваўся "па -мужыцкі": "Яська з-пад Вільні". Францішак Багушэвіч не пісаў, што ён цудоўны юрыст, а падпісваўся "па-просту": "Мацей Бурачок" і г.д.

Ну, а як распаўсюджвалі свае " творы" адраджэнцы? Друкавалі ў апазіцыйных, цэнтральных, якасных газетах, кштолту "Свабоды" ці " Народнай Волі"? Ды не! Гэтыя "творы" выходзілі вялікімі накладамі на кепскай паперы, а то і перапісваліcь ад рукі, ды падсоўваліся кожнаму сустрэчнаму. Не прадаваліся! А, менавіта, падсоўваліся! Іх "сумленныя беларусы" прыносілі пачкамі ў вёску і раздавалі "цёмным суродзічам".

Які самы любімы і даступны народу жанр? Эсэ, опера, навэла? Ды не, анекдот.

У эфектыўнасці анегдотаў я ўпэўніўся сам. Тут у Іркуцку мяне часта пытаюць: "Як там ў Беларусі? Малайцы, што аб'ядноўваецесь!" А я ім у адказ: "Ведаеце, што кажуць зараз беларусы: Яны кажуць: зараз хуценька з Расіяй аб'яднаемся, потым выбіраем беларускага прэзідэнта агульным, затым рэзка аддзяляемся — і няхай ён там у гэтай Расеі кіруе!" Пасля маіх слоў, большасць задумваецца, а некаторыя адразу ж робяць выснову: "Не, нам такога не трэба!" А аднойчы, будучы на адной імпрэзе ў абласной адміністрацыі, я расказаў такі анегдот, прычым спачатку выдаў яго за праўду: "Вы ўсе чулі, што 1 красавіка Ельцын і Лукашэнка падпісалі Указ. У адным з пунктаў там гаворыцца, што з гэтага часу ва ўсіх навучальных установах Беларусі абавязкова ўводзіцца вывучэнне расейскай мовы. (Усе згодна заківалі галовамі.) А на тэрыторыі Расеі — абавязковае вывучэнне беларускай мовы!" Тут некаторыя ўсміхнуліся, некаторыя зрабілі занадта круглыя вочы, а адзін, які раней больш за ўсіх хваліў гэту інтэграцыю, залямантаваў: "Як гэта?! Ды не можа быць? Навошта ж нам гэтая беларуская мова?" Я працягваю ролю. Кажу: "А як вы хацелі? Інтэграцыя павінна быць у абодва бакі". Дык ён аж пабялеў. Прышлося мне яго хуценька супакойваць. Кажу: "1 красавіка гэты Указ выйшаў, а не другога". Тут усе засмяяліся.

Дык вось я і хачу Вас прызваць, паважанае спадарства. Трэба нам усім, агулам "ісці ў народ". Яшчэ класікі пісалі , што "Жывое Слова — Магутная Зброя". Толькі так мы зможам перканаць наш народ, у патрэбнасці ісці на барацьбу з Ворагам. І толькі так мы зможам яго перамагчы! Тым больш, што калі дзе-небудзь мы і "схітрым", то нашы "хітрыкі" - дробязь, у параўнанні з іх "Вялікай Хлуснёй".

***20.07.97 г.***
***Міхась Волат***
***г.Іркуцк.***

## ПАД СЦЯГАМ БНР

50 год таму назад, у лістападзе 1948 года, у Таронта была заснаваная першая ў Канадзе беларуская нацыянальная арганізацыя - Згуртаванне Беларусаў у Канадзе - ЗБК.

Задума стварэння беларускай арганізацыі, якраз у 30-я ўгодкі БНР, як і ўся ейная паўстагоддзевая дзейнасць базаваліся на ідэі дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Ідэі, якая ад 1918 года сталася асновай усяго беларускага нацыянальнага руху.

Сёлета , у 80-я ўгодкі абвешчання Актам 25 Сакавіка 1918 года дзяржаўнай незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, вітаем Галоўную Управу, аддзелы і сяброў Згуртавання Беларусаў Канады - сяброў Каардынацыйнага Камітэта Беларусаў Канады - з Залатым Юбілеем!

Жадаем Вам, працаўнікі, добрага здароўя, духовых сілаў, вытрываласці і багатых плёнаў у працы на карысьць нашай беларускай вызвольнай справы.

Хай жа жыве і развіваецца пад знакам бел-чырвона- белага сцягу БНР

## ФОНД ПАМЯЦІ НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Заснаваны у палове верасня 1997 года ў Канадзе Выканаўчым Камітэтам Каардынацыйнага Камітэта Беларусаў Канады. Ахвяры на Фонд прызначаны на дапамогу студэнтам, якіх урад Беларусі выключае з універсытэтаў за тое, што яны бяруць удзел у дэманстрацыях у абарону Беларусі, за тое , што яны гавораць па-беларуску, што яны далучаюцца да Беларускага Народнага Фронту і змагаюцца за незалежнасць Беларусі.

21 верасьня 1997 у Таронта адбыліся памінальныя ўрачыстасці ў гонар паэткі.

Управа Фонду, у складзе: Раісы Жук-Грышкевіч, Івонкі Сурвілы і Галіны Русак, шчыра дзякуе ахвярадаўцам і заклікае беларускае грамадства ахвярамі на ФОНД аддаць пашану памяці паэткі-аўтаркі гімну "Магутны Божа" і гэтым самым дапамагчы моладзі пераследаванай урадам Беларусі за беларускую вызвольную дзенасць.

Чэкі-ахвяры на Фонд памяці Наталлі Арсенневай просім выпісваць на : Raisa Zuk-Hryskievic (in memory of N.Arsennieva)

і слаць на адрас: Dr. R.Zuk-Hryskievic 54 Mary St. Barrie, Ont.L4N 1T1

Згары шчыра дзякуем.

За Управу Фонду памяці Наталлі Арсенневай
***Раіса Жук-Грышкевіч***, старшыня.

## Ліст з Аўстраліі

...Дзіву даешся, што ў сваёй незалежнай дзяржаве і даводзіцца змагацца, са сваім урадам, за сваю мову (які сорам!), свой гімн . Паверце, што на працягу ўсяго нашага выгнання на чужыне, мы святкуем усе нашыя нацыянальныя святкаванні, асабліва І Усебеларускі Кангрэс, 25 сакавіка, Слуцкае паўстанне, ІІ Усебеларускі Кангрэс, юбілеі нашых славутых пісьменнікаў, гістарычныя падзеі і перамогі В.К.Л. і шмат іншага, і заўсёды толькі з нашымі сцягамі і нашым, ужо гістарычным гімнам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", і я думаю , як і ўсе мы тут, што і памром мы з гэтым гімнам. Хацеў бы каб вы забачылі нашыя беларускія могілкі у Мэльбурне і пачыталі што там напісана амаль на усіх магільных плітах, я можа і зраблю калісь некалькі здымак спецыяльна каб вам паказаць. І вось чуеш гэтакія рэчы як Вярхоўны Савет, беларусы радзяцца, а не саветуюцца, чужынскія найміты гаспадарамі у Беларусі, стаяць дагэтуль помнікі Леніну, Сувораву, Дзяржынскаму, катам нашага народу. Да гэтага часу трэба змагацца за сваю мову, царкву, гісторыю і г.д. проста не верыцца!

***З павагай, Алег Шнэк, г. Мельбурн,Аўстралія***




Беларуская суполка ў Мельбурне.



**Каля Мельбурна.**

### Вельмі шаноўная Рэдакцыя!

Нядаўна трапіла да мяне два нумары — 17 і 18, леташняга снежня, "Нашага Слова". Віншую Вас з аднаўленнем гэтай каштоўнай газеты і жадаю Вам добрага здароўя ў сёлетнім годзе, вытрываласці і поспехаў у працы для захавання нашай роднай мовы.

Шкадаваць трэба, што нам з-за акіяну цяжка пераслаць сродкі на падпіску газеты. Валюту ў канверце не пашлеш, бо яна прыліпне да непажаданых рук. Мне-ж хацелася-б мець і "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" Станіслава Судніка і Сяржука Чыслава. Зацікавіў мяне найбольш артыкул Паўла Сцяцко пра мову таго "Вайсковага слоўніка". Відаць, што туды ўложана нямала працы, каб запоўніць тую "белую пляму" ў нашай вайсковай тэрміналогіі.

Яшчэ раз жадаю Вам усім посьпехаў у працы й жыцьці.

З Богам! Жыве Беларусь!

К.Акула, г. Таронта, Канада

## Дзень добры!

Я вельмі рады, што зноў пачала выходзіць газета, у якой я гэтулькі гадоў друкаваўся! Дзякуй Вам за гэта асабліва ад сябе і ўсіх сяброў гуртка беларускай культуры "Зорка Венера" са старадаўняга ўкраінскага горада Ізяслава, што на Падольскай Украіне (Хмяльніччына). На правялікі жаль, на Украіне "Наша Слова" выпісаць немагчыма, (газеты няма ў каталогу): з беларускамоўных ёсць толькі газеты "Звязда", "Чырвоная змена", "Літаратура і Мастацтва", часопісы "Беларусь" , "Алеся" і "Бярозка": вось і ўвесь "выбар", усё іншае на расейскай мове. Прабачце, ёсць яшчэ і часопіс "Полымя", я няўважліва даглядзеў увесь спіс да канца. Калі б Вы маглі нам дасылаць час ад часу сваю газету, былі б Вам вельмі ўдзячныя за гэткі падарунак!

***Пятрусь Капчык.***

## КЛОПАТ ПРА НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЦІ.

У Ізяслаўскай раённай бібліятэцы (дырэктар Ніна Яфімаўна Палішчук) праяўляюць клопат і павагу да чытачоў неўкраінскай нацыянальнасці: беларусаў, палякаў, расейцаў і яўрэяў, якія ў раёне маюць ад 127 (беларусы) да амаль 385 (рускія) сваіх прадстаўнікоў. У бібліятэцы на працягу апошніх дзесяці гадоў пастаянна дзейнічае адкрытая для чытачоў экспазіцыя "Літаратура нацыяналдьных меншасцяў": на некалькіх кніжных паліцах выстаўлены кнігі беларускіх, польскіх, яўрэйскіх і расейскіх пісьменнікаў на мовах арыгінала, а таксама ў перакладах на ўкраінскую мову. Безумоўна, што самы вялікі збор кніг на расейскай мове, якая да 1991 года дамінавала над усімі астатнімі мовамі на абшарах былога СССР. Але пасля распаду СССР і абвяшчання Украінай сваёй незалежнасці сітуацыя змянілася: з Масквы больш на сістэме бібліякалектару кнігі на Украіну не паступаюць , таму і не дзіўна, што на паліцах сёння не знойдзеш кніг, якія выдаваліся пасля 1991-га года. Гэта не значыць , што мясцовыя ўкраінскія прыватныя выдавецтвы літаратуры не выдаюць кніг на ррасейскай мове: выдаюць! Але ў Міністэрства культуры Украіны няма грошай на папаўненне кніжных фондаў бібліятэк!

Прыемна адрозніваюцца паліцы згаданай экспазіцыі, дзе выстаўлены кнігі беларускіх пісьменнікаў: сёння чытачы-беларусы могуць узяць чытаць кнігі беларускіх выдавцтваў "Мастацкая літаратура", "Юнацтва", "Асар", "Полымя", "Беларусь", "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, шэрагу іншых , якія выдаваліся на працягу 1991-97 гадоў!!! Безумоўна, заслуга ў гэтым саміх беларусаў, якія бываючы на Бацькаўшчыне вязуць кнігі не толькі для сваіх прыватных бібліятэк, але і тое-сёе для сваіх суайчыннікаў, якія пастаянна жывуць тут, не бываючы на Беларусі. І гэтага "тага-сяго" на паліцах ужо трыста экзэмпляраў! Больш паловы з іх перададзены ў фонд бзбліятэкі аўтарам гэтага допісу...

Супрацоўнікі бібліятэкі спадарыні Галіна Астапчук, Таццяна Лісавік, Марыся Лугавая не толькі добразычлівыя і ўважлівыя да чытачоў, але і вельмі начытанныя жанчыны, заўсёды могуць параіць чытачу ўзяць для чытання кнігу з экспазіцыі "Літаратура Нацыянальных меншасцей". На маё пытанне, хто з беларускіх аўтараў кніг, якія ёсць у бібліятэцы на беларускай і ўкраінскай мовах, карыстаецца нязменным попытам, у адзін голас адказалі : КАРАТКЕВІЧ!!! Яго збор твораў у 8 томах ужо гады два пастаянна на руках у чытачоў! Аматарам паэзіі да спадобы зборнікі вершаў Максіма Багдановіча "Вянок" і "Зорка Венера", не залежваюца падоўгу пасля вяртання кнігі Васіля Быкава і Івана Мележа, Святланы Алексіевіч і Леаніда Дайнекі, Уладзіміра Арлова і Валянціны Коўтун, Ларысы Геніюш і Наталлі Арсеневай, - адным словам, ёсць попыт на беларускую кнігу ў Ізяславе. І чытаюць яе не толькі этнічныя беларусы, але і мясцовыя ўкраінцы: Беларуская мова зразумелая ўкраінцу, і гэтым усё сказана.

У пачатку студзеня я перадаў у экспазіцыю. яшчэ 25 кніг, прывезенных з Менску. Гэта высокамастацкі зборнік паэзіі Уладзіміра Някляева "Прошча" (мастак Сяргей Чарановіч), выдадзены выдавецтвам "Мастацкая літаратура", двухтомная "Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі" (выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя"), два альбомы гэтага ж выдавецтва: "Народнае мастацтва Беларусі" Я. Сахуты і "Беларускі арнамент" М. Кацара, дзве кнігі Валянціны Лукшы: "Лебядзіная вернасць" і "Покліч лёсу" (выдавецтва "Юнацтва"). "Гісторыя культуры Беларусі " Леаніда Лыча і Уладзміра Навіцкага (Выдавецтва "Экаперспектыва"), "Беларуская дзічая літаратура" (хрэстаматыя) складальнікаў М. Яфімава, В. Ляшука (выдавецтва "Вышэйшая школа"), "Вятрыска з радзімай краіны" Янкі Золка (выдавецтва Бел АД1), "Чалавек-сонца Фрагцыск Скарына" (выдавецтва НКД "Маркетынг"), дзве кнігі "Беларускага кнігазбору": ЯНН Чачот і Вацлаў Ластоўскі (выдавецтва МФ " Беларускі кнігазбор"), " У тумане" Васіля Быкава (выдавецтва "Юнацтва"), тры тамы збору твораў класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы (з 9-ці томнага збору твораў выдавецтва "Мастацкая літаратура", тры кнігі серыі "Бібліятэка беларускай дзіцячай літаратуры", якую выпускае выдавецтва "Юнацтва": "Цудоўная дудка", " Не сілай, а розумам", "Свяці,свяці, сонейка" . Падараваў я і вельмі прыгожа афармленнае выданне гэтага ж выдавецтва "Сярэбраная табакерка" Змітрака Бядулі, Якое выйшла ў серыі "Залаты ключык" у 1997 годзе. Юным чытачам адрасуюцца і астатнія чатыры кнігі: Янка Сіпакоў "Пада-ры нам дрэва" , Валянціна Коўтун "Крыж міласэрнасці", Вячаслаў Адамчук" Чужая бацькаўшчына" , Генрых Далідовіч "Кліч роднага звона" (усе названыя кнігі выдала выдавецтва "Юнацтва"). Вялікую дапамогу ў набыцці згаданных кніг аказала Навуковая-педагагічная бібліятэка Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь ( дырэктар Алена Васільеўна Шанэлава)...

Бываючы часцяком ў бібліятэцы, мне заўсёды прыемна бачыць чытачоў ля беларускіх паліцаў экспазіцыі " Літаратура нацыянальных меншасцяў". І хочацца ад усяго сэрца падзякаваць і аўтарам кніг, і мастакам, якія і так па - майстэрску афармілі, і выдавецтвы Беларусі: кнікі беларускіх выдавецтваў выгадна адрозніваюцца высокай паліграфічнай культурай, іх проста прыемна браць у рукі!...

***Пятрусь Капчык,***

Філолаг, курахнік гуртa беларускай культуры "Зорка Венера",
сябра рады Беларускіх таварыстваў і суполак на Украіне, сябра Вялікай Рады Згуртавання Беларусаў Свету "Бацькаўшчына", г. Ізяслаў, Украіна. 2.02.98г.

# БЕЛАРУСЬ МАЕ СВОЙ ЦЭНТР, БОГАМ "ПРЫВЯЗАНЫ" ДА ЕЎРОПЫ І ЎСЁЙ ЗЯМЛІ.

**Аляксей Саламонаў**, *доктар тэхнічных навук, прафесар, член-карэспадэнт Міжнароднай акадэміі тэхнічнай адукацыі, навуковы кіраўнік асацыяцыі геадэзістаў і картографаў Беларусі, старшыня Менскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

**Аб сутнасці геаграфічнага цэнтра тэрыторыі зямной паверхні.**

Дакладнага вызначэння (у строга матэматычным, канкрэтна абагуленым сэнсе) гэты тэрмін не мае. Бо калі зыходзіць з таго, што геаграфія — гэта "землеапісанне" (geo — зямля, grapho - пішу), то сэнс выразу " геаграфічны цэнтр" навогул губляецца. Але ж для матэматыкі і фізікі слова "цэнтр" увогуле азначае асярэдненую кропку, адпаведную серадзіну (лат. centrum, грэч. — kentron). Таму далей пад геаграфічным цэнтрам (ГЦ) адпаведнай тэрыторыі зямной паверхнасці будзем разумець асярэдненую кропку яе геаметрычнай адноснасці (паверхня або плоскасць праекцыі,агляду), знойдзеную пад пэўнымі ўмовамі. Ён можа мець два прызначэнні: размяшчэнне непасрэдна на гарызантальнай праекцыі ўчастка або на ўмоўнай паверхні адноснасці (паверхня геоіда ці рэферэнц-эліпсоіда, гарызантальная паверхня асярэдненай плоскаці і інш.), становішча па вышыні ( у абсалютным - ад зыходнага нуля, або ўмоўным выражэнні). У далейшым ГЦ разглядаецца тут як геаметрычная кропка, якая па ўмоўна прынятых паказчыках знайходзіцца ў цэнтры паверхні адпаведнай тэрыторыі Зямлі, або па сутнасці — яе геаметрычная сярэдзіна. Знаходзіць ГЦ можна па-рознаму. Калі, напрыклад, яго' каардынаты вылічаць па 4-х крайніх супрацьлеглых кропках участкаў (паўночнай, паўднёвай, усходняй і заходняй) у адпаведнасці з формуламі Хц=(Хпн+Хпд) : 2 і Уц = (Уу+Уз) : 2, то для Кубы, чатырох галоўных астравоў Японіі, (Кюсю, Сікоку, Хансю, Хакайда) і іншых аналагічных па форме тэрыторыяў шуканыы цэнтр апынецца па-за межамі гэтых краін. Штосьці такое спрошчанае рабілася раней для Беларусі. Таму такія разлікі (і не толькі для нашай рэспублікі) не мелі асэнсованай прывязкі да тэрыторыі. Разгляданая задача становіцца яшчэ больш складанай у прымяненні да такіх азначэнняў, як Еўропа. З улікам таго, як абмяжуем яе тэрыторыю, аднясем туды ці не, Англію, Ісландыю, Зямлю Франца-Іосіфа, Шпіцберген, Сардынію, Сіцылію і інш. участкі сушы і як гэта зробім, атрымаем і розныя адказы. Дарэчы, такія разлікі ( з пэўнымі ўмовамі падыходаў) для Еўропы ўжо рабіліся. У адпаведнасці з імі адзін ГЦ Еўропы замацаваны яшчэ ў мінулым стагоддзі на тэрыторыі Валынскай вобласці, а другі - аспрэчвае Прыбалтыка. Прэтэнзіі — не выпадковыя. Бо тэрміну ГЦ часта недвухсэнсоўна надаецца агульнаграмадскі, палітычны і іншы далёка ідучы змест. Адзначанае з улікам вышэй сказанага дае падставы выказаць наступнае агульнае меркаванне адносна вылічэння месцазнаходжання ГЦ пэўнай краіны ( рэгіёна, часткі свету).

Калі тэрыторыя непарыўная і мае адносную кампактнасць ( па форме набліжана да выпуклай геаметрычнай фігуры), то найбольш ў матэматычным сэнсе разлікі рабіць пад умовай ESi2=min, дзе Si - адлегласці паміж шуканай кропкай і характэрнымі выгінамі звонкавай мяжы гэтай тэрыторыі. Для такіх жа краін, як Куба, ГЦ будзе знаходзіцца ў перасячэнні ліній сіметрыіі плошчаў. Такія вылічэнні — вельмі аб'ёмныя і складаныя. Але калі зрабіць іх непасрэдна для кантынентальнай Еўропы, то яе ГЦ апыніцца на тэрыторыі Беларусі. Можна меркаваць, што ў гэтым ёсць глыбокі сэнс. У адпаведнасці з ім Беларусь павінна не проста захавацца, як этнічнанацыянальная і палітычная адзінка, але і выконваць надалей важкую ролю ў станаўленні і развіцці сукупнай душы агульначалавечага грамадства.



**Месцазнаходжанне ГЦ Рэспублікі Беларусь. Яго супадзенне з геаметрычным цэнтрам этнічнай Беларусі.**

У раней адзначаным сэнсе Геаграфічны цэнтр Рэспублікі Беларусь - гэта матэматычная кропка на зямной паверхні, геадэзічныя каардынаты якой B=53o 31,7; L=28o 02,8 вызначаны пад умовай ES2i=min, дзе Si - адлегласць паміж ім і характэрнымі выгінамі дзяржаўнай мяжы нашай рэспублікі. Пошукавыя работы для такога вылічэння выкананы на ЭВМ па спецыяльнай праграме 82-й экспедыцыяй аб'яднання "Белгеадэзія" (начальнік экспедыцыі Хрусталёў Уладзімір, галоўны інжынер Бандарук Мікалай, начальнік вылічальнага цэнтра Фурман Барыс) пры фінансавым садзейнічанні прадпрыемства "Аэрагеакарт" (генеральны дырэктар Мкртычан Уладзімір) . Разлікі рабіліся па картах маштаба 1:200 000 з выкарыстаннем матэрыялаў 1: 100 000 і 1: 10 000 маштабаў. Дакладнасць адпаведнасці знойдзенага такім спосабам ГЦ РБ свайму прызначэнню ў раней адзначаным сэнсе складае ў сярэднім 200 метраў. Цэнтр аказаўся ў Менскай вобласці каля вёскі Антонава (Навасёлкаўскі сельскі савет Пухавіцкага раёна). Ён замацаваны двайным геадэзічным маналітам, акапаны канавай у адпаведнасці з патрабаваннямі для пунктаў зыходнай дзяржаўнай геадэзічнай апоры, на мясцовасці абазначаны чатырохногай пірамідай, пад якой пастаўлена пліта з надпісам "Геаграфічны цэнтр Рэспублікі Беларусь". Побач размешчаны указальнік напрамкаў на галоўныя гарады Еўропы і адлегласцяў да іх.

Афіцыйныя ўрачыстасці з нагоды "адкрыцця" ГЦ РБ адбыліся 30 травеня 1996 г.

На вялікі жаль, урадавыя структуры Беларусі на тых урачыстасцях зусім не былі рэпразантаваны. Геадэзічная ж грамадскасць рэспублікі прасіла старшынь мясцовага калгаса і сельскага савета берагчы ГЦ як зрэнку вока сваёй дзяржавы.

Матэматычна ГЦ РБ уключаны у яе галоўную дзяржаўную геадэзічную апору адпаведнымі вымярэннямі на пробахCPS-сістэмы з выкарыстаннем серыі апецыяльных штучных спадарожнікаў Зямлі. Звесткі пра яго зарэгістраваны ў камітэце па аўтарскіх правах Міністэрства адукацыі і навукі РБ.

Для чаго ж спатрэбілася геадэзістам рэспублікі весць такія складаныя і нялёгкія разлікі? Вядома, - не для задавальнення простай цікавасці. А таму, што ГЦ з'яўляецца ў вышэй адзначанным сэнсе сваеасаблівым нацыянальным сімвалам глабальнай "прывязкі" Рэспублікі Беларусь ( як САМАСТОЙНАЙ дзяржавы) да планеты Зямля. Апроч таго мяркуецца, што ён будзе практычна выкарыстоўвацца ў якасці ўласна Беларускай зыходнай астронама-геадэзічнай ДАТЫ са сваёй арыентацыяй на целе геоіда, у сваю чаргу прыбліжанага да фізічнай паверхні Беларусі. У выніку такога "прыбліжэння" зменшацца скажэнні ліній і плошчаў пры іх "перанясенні" на паверхню адноснасці пры стварэнні картаў і планаў навогул, а для выкарыстання ў інжынерных мэтах - у асаблівасці.

Цікава, што ГЦ РБ накладваецца з пэўнай дакладнасцю на геаметрычны цэнтр этнічнай Беларусі. Як вядома, яе межы былі ўстаноўлены па выніках вельмі працяглых даследванняў спецыяльнай камісіі Акадэміі навук дарэвалюцыйнай Расіі па заданню царскага ўрада. Работа праводзілася пад кіраўніцтвам акадэміка Яўхіма Карскага. Тыя межы былі двойчы адзначаны на спецыяльных картах выдання 1903 і 1917 гадоў (Саламонаў А. Якой ты была Беларусь мая родная.—"Беларусь",1991,№9; газета "Тэхнолаг" Беларускага тэхналагічнага інстытута №№ 25 і 26 за 1991 г.). Пры "адкрацці" цэнтра адбыўся мітынг, на якім прысутнічалі прадстаўнікі мясцовай школы і ўлады а таксама грамадскаці, жыхары вышэй згаданай вёскі Антонава, у якой вельмі распаўсюджаны прозвішчы Антонавы. Два хлапчукі - блізняты Антонавы сталі сімвалічнымі ахоўнікамі Геадэзічнага Цэнтра Рэспублікі Беларусь ад імя яе будучыні — Беларускай моладзі.

## АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

### Рож і жыта

Сярод анамалій беларускай мовы мае месца і такая. У нашай мове ёсць словы ***іржышча*** (*ржышча*), ***аржаны*** (*ржаны*), але няма слова ***рож***. Ёсць слова ***сураж***, як назва горада ***Сураж*** і як сумесь збожжавых ***сураж***, утвораная аналагічна слову *супесь*, як сумесі розных пяскоў. Ёсць горад ***Ворша***, які ў старажытнасці называўся ***Рша***, або ***Рьша***, што ад той жа ***ржы***.

Ёсць слова ***ражон***, ***ражончык***, якімі абзываецца ўсё, што тырчаць стырчма, як ***ржышча***.

Таму па ўсім відаць, слова ***рож*** у беларускай мове было і мела вельмі старажытнае паходжанне. Слова гэтае аднаскладовае і адназначна даведыйскае. Пацвяржаецца гэта і з нямецкай мовы , там яно гучыць ***die Roqqen***. І таксама мае невялікае лексічнае развіццё.

Жыта красуе.

Чаму так адбылося, што гэтае слова выключнай важнасці так слаба развілося лексічна? Таму , што яно замянілася іншым. Захаваўшыся ў балгарскай мове, як ***рьж*** яно адтуль трапіла ў расейскую, але ў большасці славянскіх моваў замянілася на слова ***жыта*** . Разам з тым і жыта не дало багатага лексічнага гнязда: ***жытні***, ***жытніца*** вось амаль і ўсё. Чаму? І тут адказ просты. Значыць ***жыта*** не першаасноўнае слова. Значыць і яно мае пэўнае паходжанне.

Першым у гняздзо слова ***жыта*** просіцца дзеяслоў ***жыць***. І ён тут становіцца асноўным. Ад яго ідуць словы ***жыццё*** (*жытка*, *жытуха*), ***жывот*** (старабеларускае слова са значэннем *жыццё*), ***жывёла*** (бо *жывая*), ***жывы***, ***жыўнасць***. ***Жыта*** як аснова ***жыцця*** зусім верагодна магло пайсці ад слова ***жыць***. У старажытнасці слова ***жыць*** сумнявацца не выпадае. На санскрыце ***жывы*** гучыць як ***джыва***. Яшчэ раз згадаем, што ў санскрыце няма гука ***ж***, а ёсць толькі ***дж***.

Усе гэтыя разважанні ляжаць на паверхні. А зараз глянем крыху глыбей. Вельмі блізка да дзеяслова ***жыць*** падыходзіць дзеяслоў ***жаць***. Дзеяслоў ***жаць*** выводзіцца лінгвістамі ад дзеяслова ***яць*** - *браць*. ***З'яць*** - *сабраць*. Але ізноў жа згадаем, у санскрыце не было і гука ***з***. У дадзеным выпадку на дапамогу прыходзяць гукі ***с***, ***ц***, ***дж***. Атрымоўваем ***сцяць*** - *зрэзаць* , ***уцяць*** - *адрэзаць*. Трэба меркаваць, што дзеяслоў незакончанага дзеяння ***цяць*** абазначаў *рэзаць*.

Такі ж дзеяслоў ***джаць*** абазначаў тое самае. Пераход ***дж*** ў ***ж*** і даў слова ***жаць***. ***Зжаць*** - *зрэзаць*, *сабраць*. ***Жаць, жне, жнуць, жніво, жатва, жняярка, жнец, жняя***. Тут гняздо словаў непараўнальна багацей.

Такім чынам ***рож жалі***. На полі заставалася ***ржышча***. А ***зжатае*** ці не магло стаць ***зжытам*** , ***жытам*** і ўжо з-за блізкасці гучання і важнасці для жыцця зліцца з гняздом дзеяслова ***жыць***.

Але яшчэ раз вернемся да слова ***рож***. У старажытнасці , пры адсутнасці ў мове гука ***ж*** гэтае слова так гучаць не магло. Яно магло гучаць толькі як ***родж***. А потым ужо ***дж*** ў розных мовах трансфармавалася ў розныя гукі. У нас - у ***ж***, у немцаў у ***г*** (*g*) ( *die Roggen*). Але як толькі мы вымавілі: " ***Родж***", дык адразу згадваем і яшчэ адно вельмі важнае слова з гэтага гнязда - ***ураджай***. ***Ураджайнасць, урадзіць, радзіць, род***. Вось мы і выйшлі на першаслова. ***Родж*** (*рож*) - гэта тая расліна, якая ***родзіць***, ***дае ўраджай***. І зараз становіцца абсалютна зразумелая замена слова ***рож*** на слова ***жыта***. *Радзіць* і *жыць* — словы аднаго ўзроўню, блізкія побытава. *Нарадзіўся* чалавек і *жыве*. *Урадзіла* поле і ***жывуць*** усе. Вялікі ***ўраджай жыта***. Вось вам у адным сказе і ***рож***, і ***жыта***, і ***радзіны***, і ***жыццё***.

***Станіслаў Суднік.***

### Цяга і цяг

**"Цяга"- слова мовы пячніка. Калі дым ідзе ў комін, дык кажуць вось якая добрая - цяга, альбо моцная цяга.Яшчэ ёсць іншыя азначэнні цягі: механічная цяга, электрычная цяга.Далей ідуць словы: цягнуць, цягацца, цяжар, цяжка. Усе яны аднаго гнязда, але ёсць слова вельмі падобнае, але з зусім іншым сэнсам. Гэта слова:"цяг". Яно ўжываецца ў значэнні "бег". Даць цягу, абазначае: уцячы ад каго-небудзь, даць драла. Дык мне і хочацца расказаць вам вось які выпадак са словамі "цяг" і "цяга":" Адзін малады пячнік вырашыў, што ён ужо дастаткова добра ведае сябе у пячной справе ды згадзіўся самастойна зрабіць печ аднаму гаспадару на вёсцы. Калі печ была зроблена, то настаў час апробаваць яе. Запалілі, а дым пайшоў не ў комін , а на хату. Пячнік аказаўся кемлівым хлопцам, зразумеў сваю памылку, а выпраўляць не хацелася. Дык ён і кажа да гаспадароў " Бярыце дзяружку ды трымайце ў дзвярах, а то скразняк, а я пайду дам цягу. Мужык з жонкай трымалі-трымалі ў руках дзяружку ды давай клікаць пячніка. А тут якраз суседка зайходзіць:"Навошта вы трымаеце гэтую дзяружку ў руках?" - "Пячнік так загадаў, а сам пайшоў цягу даваць". "Дык ён і даў цягу, я яго у канцы вёскі бачыла, ды так прабег хутка, што я, ават, не паспела запытацца ў яго, што здарылася, а вам бы пара і ведаць, што даць цягі і даць цягу зусім не адно і тое ж".**

*Пятрусь Жукоўскі,* г.Слонім

***Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік***

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, а/с 7.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.-- 12 000 руб.
3 мес.-- 36 000 руб.



*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 16 . 02 . 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 545.